# СВАБОДА

№32 23 — 29 жніўня 1994 г.

Кошт 40 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

Наклад 45 000



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56

Тэл. 36-24-41


## Сакрэтны ўказ прэзыдэнта пра КДБ

**Адзін з апошніх указаў прэзыдэнта Лукашэнкі мае грыф «сакрэтна».**

Указ датычыць дзейнасьці КДБ. У ім вызначана колькасьць супрацоўнікаў гэтага ведамства, фінансаваньне, матар'яльна-тэхнічнае забесьпячэньне і г. д. Апрача таго, гэтым указам уведзенае ў дзеяньне новае «Часовае палажэньне аб КДБ», якое, паводле нашых зьвестак, выклікала адмоўную рэакцыю ў Вярхоўным Савеце.

Як заявіў карэспандэнту «Свабоды» адзін з дэпутатаў, «гэты дакумант дае КДБ магчымасьць на законнай падставе займацца палітычным вышукам».

Нагадаем, што «Часовае палажэньне аб КДБ», якое дзейнічала дагэтуль, было прынятае Вярхоўным Саветам пасьля жнівеньскага (1991 г.) путчу. Яно было даступнае ня толькі заканадаўцам, але і журналістам. Тым часам з прэзідэнцкім «Палажэньнем» маюць магчымасьць азнаёміцца толькі 10-15 дэпутатаў, якім Прэзыдыюм ВС у свой час аформліў спэцыяльны дазвол карыстаца дакумантамі з грыфам «сакрэтна».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Рыхтуецца гучная справа?

**З колаў, блізкіх да адміністрацыі прэзыдэнта Лукашэнкі, карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што там цяпер абмяркоўваецца пытаньне пра магчымасьці ўзбудзіць гучную крымінальную справу.**

Гаворка ідзе пра тое, каб прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці некаторых членаў былога ўраду Кебіча за «растрату дзяржаўных сродкаў».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## TV 6 каналаў



## „Наша Ніва“ пра акупацыю і акупантаў

Ці знаходзіцца сёньняшняя Беларусь пад акупацыяй? Што на гэты конт могуць засьведчыць міжнародныя канвэнцыі? Аказваецца, паводле міжнароднага права, мы можам не плаціць падаткі дзяржаве... Якія акупацыі нашай краіны адбываліся ў гісторыі? Што думаюць пра гэта паспаліты чалавек і кваліфікаваны юрыст? Што такое урбіцыд... І шмат-шмат іншых аспэктаў акупацыі — на старонках сьвежага нумару беларускай газэты «Наша Ніва». А яшчэ — габрэйскі гумар, нямецкае апавяданьне, польскі нацыяналізм і...: казка пра Лукашэнку.

## Віетнамцы падкапалі мяжу

**Днямі 66 грамадзянаў Віетнама, зрабіўшы падкоп на гарадзенскім участку беларуска-польскае мяжы, перабраліся ў суседнюю краіну.**

Аднак радавацца было зарана. Усіх парушальнікаў палякі затрымалі і таго ж самага дня вярнулі на нашую тэрыторыю. Кажуць, што кіраўніцтва беларускага памежнага атраду дагэтуль ня можа пазбыцца жаху — як такое магло здарыцца?! Сапраўды, як?

**Валеры МАТВЕЙЧЫК**

## Да Швайцарыі не даехалі...

**На мінулым тыдні старшыня Кобрыньскага гарвыканкаму Мікалай Гардзіевіч разам з галоўным інжынэрам мясцовага будаўнічага трэсту сп. Дамброўскім выправіліся на аўтамабілі БМВ у Швайцарыю.**

Яны ехалі ўзгадніць праект новага гатэлю, які зьбіраюцца будаваць у сваім горадзе супольна са швайцарскаю фірмаю. Даехалі, аднак, толькі да Варшавы. У польскай сталіцы яны спыніліся хвілін на дзесяць, каб перакусіць. І пакуль елі ў кавярні піцу, іхны аўтамабіль скралі.

Разам зь ім зьніклі і праектныя дакуманты, якія заставаліся ў машыне. Давялося вяртацца дахаты цягніком.

Скрадзены БМВ лічыўся самым шыкоўным аўтамабілем у Кобрыні.

**Рыгор ПЯТРУСЕВІЧ**



## Да нас едуць ксяндзы-місыянэры

**12 жніўня прымас Польшчы Юзаф Глэмп у каталіцкім цэнтры паблізу Варшавы блаславіў 35 ксяндзоў-місыянэраў, якія адпраўляюцца на Ўсход.**

Каля дзесяці місыянэраў, паводле нашых зьвестак, кіруюцца ў Беларусь.

Прымас Польшчы сказаў, што гэта «вялікае непаразуменьне», калі ксяндзоў-місыянэраў абвінавачваюць у паланізацыі.

**В. ЦАПАЯ**

## Сусьветны банк паведаміў „чорны сьпіс“

**Сусьветны банк апублікаваў сьпіс самых буйных даўжнікоў. У яго ўваходзяць 10 дзяржаваў — амаль усе прадстаўнікі „трэцяга сьвету“.**

У справаздачы Сусьветнага банку адзначаецца, што ня трэба надта строга падыходзіць да «даўжнікоў», бо шмат зь іх даволі ўмела скарысталіся дадзенымі ім пазыкамі і цалкам крэдытаздольныя. А частка дзяржаваў з «чорнага сьпісу» на чале з Кітаем наагул апярэджвае ўвесь сьвет паводле тэмпаў эканамічнага росту. Такім чынам, лепей пазычаць і будаваць сучасную эканоміку, чым ганарыцца сваёю фінансавай незалежнасьцю ды плесьціся ў хвасьце. І ўсё ж...

На сёньняшні дзень Кітай вінны Сусьветнаму банку больш за 2 мільярды даляраў, Індыя — 2,191 мільярды, Інданэзія й Мэксыка — па 1,5 мільярда, Пэру — мільярд, Бразылія — 798 мільёнаў, Румынія (выбітная сваім даволі нерацыянальным скарыстаньнем пазыкаў) — 650 мільёнаў, Бераг Слановай Косткі — 465 мільёнаў, Філіпіны — 430 мільёнаў, Вэнэсуэла — 398.



*Падпіска на газэту СВАБОДА прымаецца ва ўсіх аддзяленьнях паштовае сувязі. Кошт на 3 месяцы —600 рублёў.*

# «Памінкі» па авіяцыі адбыліся

**Дзень вайскова-паветраных сілаў Беларусі, шумна разрэклямаваны дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, нарэшце адбыўся.**

У мінулым нумары нашая газэта апісала прыгатаваньні да гэтага сьвята, якія праходзілі ў найлепшых традыцыях «застойнага» часу. Варта толькі прыгадаць, што жаўнеры тры дні запар прыводзілі ў прыстойны стан вайсковы аэрадром у Мачулішчах напярэдадні меркаванага прыезду прэзыдэнта. Ім нават загадалі намаляваць пры ўезьдзе на аэрадром даўжэзную белую паласу, каб «членавоз» з прэзыдэнтам, барані Божа, ня зьбіўся з дарогі.

Але грошы падаткаплацельшчыкаў былі ў чарговы раз змарнаваныя. Шаноўны госьць так і не зьявіўся. Напэўна, ўсё яшчэ балела сьпіна. Тым ня менш, арганізатары, спадзеючыся на прыезд прэзыдэнта, прынялі надзвычайныя меры бясьпекі. Вялікая колькасьць міліцыянтаў ачапіла даволі значны кавалак аэрадрому, не прапускаючы да выставы авіятэхнікі шматлікую публіку. Хвілінаў пятнаццаць на поле не прапускалі і журналістаў, патрабуючы няісныя прапускі. Адзін з маіх калегаў чуў, як міліцэйскі падпалкоўнік сказаў: «Пустишь эту прессу, а потом в газетах появятся жареные снимки».

Ганаровае права першачарговага агляду тэхнікі далі прэм'ер-міністру Міхаілу Чыгіру, «сілавым міністрам» Юрыю Захаранку, Уладзімеру Ягораву і Анатолю Кастэнку (на здымку), а таксама дзяржсакратару СНД Івану Каратчэню і намесьніку старшыні Вярхоўнага Савету Уладзіміру Русакевічу. Высокапастаўленыя госьці не паленаваліся агледзець кожную з паўтара дзясятка выстаўленых баявых машынаў, выслухоўваючы доўгія і нудныя рапарты членаў экіпажу, якія падрабязна пералічвалі ўсе тактыка-тэхнічныя характарыстыкі сваіх зьнішчальнікаў, шрубалётаў і транспартных самалётаў.

Агляд начальствам тэхнікі доўжыўся цэлую гадзіну. Тым часам людзі былі вымушаныя назіраць за гэтай міністэрскай дэфіляй з самага краю поля, стоячы на мокрай траве. Нарэшце, калі госьці пайшлі на назіральны пункт, кардон міліцыі быў зьняты, і натоўп з паўтары тысячы літаральна рынуўся на самалёты. Дзеці і дарослыя з зайздросным спрытам кінуліся выпрабоўваць вайсковую тэхніку на трываласьць. Відавочцы сьцьвярджаюць, што, напрыклад, транспартны самалёт ІЛ-76МД, разьлічаны на перавозку 300 жаўнераў, пабіў з дапамогаю звышцікаўнай публікі ўсе рэкорды ўмяшчальнасьці. На шчасьце, лётчыкі прадбачылі такі паварот падзеяў і папярэдне зьнялі з самалётаў усё, што можна было адкруціць. Інакш, мусіць, баяздольнасьці беларускіх паветраных сілаў была б нанесена адчувальная шкода.

Што да паказальных палётаў, то яны былі ня надта відовішчныя. Часткова, напэўна, гэта можна растлумачыць кепскімі ўмовамі надвор'я: было воблачна. Самалёты па адным зьяўляліся ўдалечыні над полем, выконваючы нескладаныя фігуры. Спроба прадэманстраваць дазапраўку ў паветры не ўдалася — пілёты прамахнуліся. Затое мотадэльтапляны дазволілі ўсім адчуць рэальную «моц» беларускай вайсковай авіяцыі.

Да другой гадзіны дня сьвята беларускіх ВПС, якое праходзіла пад бел-чырвона-белым штандарам і сьцягам ВВС СССР (?!), паступова заціхла. Каля традыцыйных буфэтаў народ цешыўся піўком і шашлыкамі. А віноўнікі сьвята, лётчыкі, спраўлялі з дапамогаю гарэлкі, паводле іхных словаў, «памінкі па беларускай авіяцыі», з сумам гаворачы пра тое, што без запчастак пра беларускія паветраныя сілы скора можна будзе гаварыць у прошлым часе.

**В.Ш.**

**На здымках:** прэм'ер-міністар Чыгір аглядае баявую тэхніку; трое міністраў — і ўсе „сілавыя"







# Усе чакаюць, калі Лукашэнка раскажа пра Арцыменю

**Хутка пройдзе год з дня трагічнай сьмерці старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму Д. Арцымені, які быў забіты летась 20 верасьня. Аднак пра вынікі сьледзтва дагэтуль, па сутнасьці, нічога не вядома. КДБ, які па традыцыі любіць усё сакрэціць, не паведамляе пра гэтую справу ніякіх зьвестак.**

Адна мясцовая газэта вырашыла нагадаць пра справу Арцымені, зьмясьціўшы нататку пра эшалён з «жоўтым фосфарам», які сканфіскавалі год таму на памежнай з Польшчаю чыгуначнай станцыі. Замест чаканага аднаго мільёна даляраў фірма «Белзьнешсэрвіс», якой з пратэкцыі Арцымені перадалі фосфар для рэалізацыі, пералічыла дзяржаве, нібыта, усяго два мільёны беларускіх рублёў (або 200 тысяч згодна дэнамінацыі). Аўтар нататкі робіць выснову: «І за што толькі пацярпеў старшыня аблвыканкаму?»

Адразу зазначу, што яшчэ паўгода таму начальнік абласной управы КДБ генэрал Сьцепаненка афіцыйна заявіў, што вэрсія забойства з-за сканфіскаванага грузу праваралася, але Арцыменя, маўляў, да фосфару ня меў ніякага дачыненьня. Між тым дакладна вядома, што Арцыменю вельмі цікавіў лёс затрыманага эшалёну і ён сам пачаў рабіць захады для таго, каб груз быў рэалізаваны. Дарэчы, у вышэйзгаданай нататцы гаворыцца, быццам бы КДБ прыйшоў да высновы, што жоўты фосфар сканфіскавалі ўвогуле незаконна... Між тым у горадзе чакаюць, што неўзабаве сюды прыедзе сам прэзыдэнт Лукашэнка і, нарэшце, паведаміць усю праўду пра забойства Арцымені. Чаму гарадзенцы спадзяюцца на гэта? Рэч у тым, што Лукашэнка выкарыстоўваў справу Арцымені ў сваёй перадвыбарчай барацьбе. Двойчы, выступаючы на мітынгах перад гарадзенцамі, ён абвінавачваў улады, што яны не зацікаўленыя, каб была абвешчаная праўда пра забойства. Ён сьцвердзіў тады, што нябожчык Арцыменя наставаў камэрцыйных структураў, каб адмываць грошы, і быў забіты ў выніку разборкаў паміж мафіяй. Мабыць, Лукашэнка сапраўды пра нешта ведаў, паколькі публічна зьвярнуўся на мітынгу да генэрала Сьцепаненкі са словамі: «Скажыце Лавіцкаму, пакажыце плёнку, якая знаходзіцца ў нетрах КДБ».

Дарэчы, будучы прэзыдэнт тады ж паабяцаў, што як прыйдзе да ўлады, дык абавязкова паведаміць гарадзенцам пра тое, хто і за што забіў Арцыменю. Сёньня Лукашэнку і карты ў рукі. Людзі чакаюць. А для яго самога гэта выдатная нагада выкрыць карупцыю былых уладаў. Адзін афіцэр КДБ днямі прызнаўся мне, што простыя супрацоўнікі зрабілі ўсё магчымае, каб разблытаць Арцыменеву справу. А цяпер, маўляў, ад іх больш нічога не залежыць — «астатняе павінны вырашыць на значна больш высокім узроўні».

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Рэспубліка Зона жыве па сваіх законах

**Адселеная чарнобыльская зона не такая бязьлюдная, як некаму здаецца.**

За манумэнтальнымі КПП, якія ахоўваюць мяжу паміж «чыстай» і «бруднай» тэрытарыямі, сотні людзей штодня зьбіраюць грыбы, ягады, ловяць рыбу і проста адпачываюць.

Такую карціну пабачыла спэцыяльная камісія з Магілёва, якая праехалася па некаторых адселеных вёсках. Амаль 50 чалавек былі аштрафаваныя за парушэньне радыяцыйнага рэжыму. А што толку?

**Н.Р.**

## Толькі не для прэсы...

**20-га жнівня ў Горадні адбыўся зьезд «Народного движения Беларуси».**

Імпрэза паказала, што адзінства ў НДБ няма. Адныя выказваліся ў падтрымку А. Лукашэнкі, іншыя — супраць пазыцыі прэзыдэнта. Мэты «движения» застаюцца ранейшыя: саюз 3-х братніх славянскіх народаў, дзяржаўнасьць расейскай мовы, аб'яднаньне грашовых сыстэмаў, калектыўная бясьпека ды іншыя ідэалягічныя міражы. Журналістаў не запрашалі.

**М. М.**

## Аздараўленчы ўплыў ідэяў чучхэ

**18 жніўня ў Беларусь вярнуліся 10 дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў Гомельскай вобласці, якія паўмесяца адпачывалі ў піянэрскім летніку ў Паўночнай Карэі.**

Іх паездка туды была арганізавана Партыяй камуністаў Беларусі. Як паведаміў БелаПАН сакратар Цэнтральнага Камітэту ПКБ Віктар Чыкін, адпачынак дзяцей аплаціла Працоўная партыя Карэі і, часткова, ПКБ.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ**

## Сякуць усё, што трапіць пад руку

**Горацкі лясгас занепакоены — тэмпы вырубкі лясоў у раёне набылі жахлівы размах.**

У выніку бурнага будаўніцтва катэджаў для мясцовай «арыстакратыі» зьнікаюць цэлыя гаі. Чарга дайшла і да дрэваў, якія растуць уздоўж дарог.

Ніводны зь «лесарубаў» не прыцягнуты да сур'ёзнай адказнасьці, яны адкручваюцца толькі сьмехатворнымі штрафамі.

**Барыс МІХЕЕЎ, БелаПАН**

## Студэнты ідуць у фронт

**Сваю маладзёжную арганізацыю зарэгістравала Віцебская рада Беларускага народнага фронту.**

Ініцыятарамі яе стварэньня сталі віцебскія студэнты. Сярод галоўных задачаў арганізацыі — «выхаваньне маладых патрыётаў Беларусі», удзел у падтрыманьні грамадзкага парадку, правядзеньне вольнага часу.

**Іван ВАЛІН, БелаПАН**

## У Лукашэнкі будзе свой Саюз

**Гарадзенская гарадзкая група падтрымкі А. Лукашэнкі пераўтворана ў грамадзка-палітычны рух.**

Назва досыць груваствая: «Народны саюз Беларусі па падтрымцы барацьбы з карупцыяй і злачыннасьцю «Ачышчэньне». Мэта саюзу — мацаваць уладу прэзыдэнта.

**В.В.**

## Ствараецца партыя праваслаўных

**У Берасьці ўзьнік аргкамітэт па стварэньні Беларускай партыі праваслаўных.**

Узначаліў аргкамітэт былы выкладчык філязофіі Валеры Дзяркач.

**Ігар ІВАНОЎ**

## Аб прайгранай вайне

**25-га жніўня ў Ваўкавыску адбудзецца навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная абарончай вайне Польшчы ў 1939 г.**

Яе праводзяць у рамках Дзён польскай культуры, якія арганізуюць мясцовы аддзел Саюзу палякаў Беларусі, а таксама польскае таварыства «Варта польскіх магілаў» і «Вспульнота польска».

**В. ВАСІЛЕВІЧ**

# Усе — у хлеў!

### У Карэлічах вырашаюць справу дзяржаўнай важнасьці

**У г. п. Карэлічы, на вуліцы Будзёнага, жыве 53-гадовы грамадзянін Уладзімер Біба, супраць якога мясцовае начальства распачало сапраўдную вайну.**

«Табе што: савецкая ўлада не падабаецца, зямлі захацеў?!» — з такімі словамі завітаў да гаспадара старшыня пасялковага Савета Іван Аляксандровіч разам зь міліцыянтамі, узброенымі пісталетамі, дубінкамі і наручнікамі. Яны заявіліся, каб выканаць рашэньне Карэліцкага райвыканкаму, які пастанавіў «зьнесьці самавольна пабудаваны гаспадарчы хлеў».

З-за гэтага вось хлява ўлады і не даюць спакойнага жыцьця спадару Бібу. Колькі ён ні хадзіў, колькі ні даказваў, што хлеў пабудаваны законна — слухаць ня хочуць.

Самае цікавае, што гэты хлеў Уладзімер Біба пабудаваў яшчэ ў 1969 г. Ён нанесены ў яго на пашпарце ўчастку, які зацьверджаны ў Бюро тэхнічнай інвэнтарызацыі. А ўлады свае: «Знось, а то мы самі зьнясем».

«Я працую з ранку да ночы, — кажа сп. Біба. — Кожны ў Карэлічах ведае, які я гаспадар. Але намі кіруюць людзі, якія ў сваіх партыйных школах толькі і вучыліся змагацца з уласным народам. Яны хочуць, каб мы ня мелі нічога свайго, а цалкам залежалі ад іх.»

У невялікай хаце сп. Бібы жывуць дзеці і ўнукі (усіх — сем чалавек). Участак — 10 сотак. Трымаюць гаспадарку, якая і корміць сям'ю. Ад уладаў хочуць толькі аднаго — каб не перашкаджалі працаваць.

Але чыноўнікі не сунімаюцца. Хлеў, які прастаяў 25 гадоў (!) спакою ім не дае. Частку хлява яны зь міліцыянтамі ўжо разбурылі. Паабяцалі, што разбураць і астатняе. Для карэліцкіх уладаў гэтая праблема цяпер, здаецца, самая галоўная. Во даў Бог начальства!

**Іван СІДАР**

## Землякі заклікаюць прэзыдэнта «действовать как Сталин»

**Газэта «Могилёвские ведомости» (афіцыйнае выданьне абласнога Савету) распачала друкаваць «письма трудящихся» са зваротамі да прэзыдэнта.**

Аўтары заклікаюць Лукашэнку «действовать как Сталин», «создать комиссию, чтобы выносила решения, не подлежащие обжалованию», і г. д.

Прыкладна гэткія ж настроі маюць і мясцовыя ўлады. Старшыня Чэрыкаўскага райвыканкаму Васіль Ермакоў лічыць, што «надзвычайнае становішча патрабуе надзвычайных мераў». Намесьнік старшыні Магілёўскага аблвыканкаму перакананы, што крызысную сытуацыю ў будаўнічай галіне могуць выправіць толькі «сілавыя» мэтады кіраваньня. А старшыня аблвыканкаму М. Грынёў днямі заявіў, што «заравшихся и завравшихся пора ставить на место». Але каго канкрэтна, сп. Грынёў не сказаў. Наўрад ці ён меў тут на ўвазе самога сябе.

Між тым, дэмакратычная фракцыя абласнога Савету абвінавачвае менавіта М. Грынёва ды іншых чыноўнікаў у шматлікіх злоўжываньнях і «прыхватызацыі». Аднак старшыня аблвыканкаму робіць выгляд, быццам гэта датычыць нейкага іншага Грынёва, і кожны раз з новым імпэтам заклікае «навесьці парадак». Дарэчы, у хуткім часе адбудзецца сэсія абласнога Савету, дзе галоўным будзе пытаньне «Аб мерах па ўзмацненьню дысцыпліны і парадку».

**Натальля РОСЛАВА**

# Чаго толькі ні прыдумае начальства, каб палепшыць свой дабрабыт

Жыла-была ў Слоніме адна простая супрацоўніца аддзяленьня ашчаднага банку. Добрасумленна выконвала свае службовыя абавязкі. І ўсё ў яе было добра. Некалькі гадоў таму атрымала кватэру. Ну што яшчэ чалавеку трэба: ёсьць сям'я, дах над галавою. А тут раптам паштальён прыносіць зьвестку з падатковае інспэкцыі, што ёй трэба заплаціць за карыстаньне прыватнай сядзібай. Кабета напалохалася, бо сядзібы той ніколі ня мела — за што ж плаціць грошы? Падумала, што памылілася. Пайшла ў падатковую інспэкцыю. «Ды не, — кажуць, — у нас усё дакладна расьпісана. Вы, шаноўная (тыцкаюць паперы), маеце 10 соткаў зямлі, трохпапявярховы дом з рознымі там гаспадарчымі пабудовамі агульнаю плошчай 212 квадратных мэтраў. І таму, калі ласка, плаціце».

Пачала жанчына высьвятляць далей, і стала ёй зусім кепска. Аказваецца, кіраўніца Слонімскага аддзяленьня ашчаднага банку Ніна Аўдзейчык захацела пабудаваць сабе маёнтак, каб не выглядаць «белаю варонаю» сярод мясцовага начальства. Аднак адзін дом яна ўжо мела, і заканадаўства не дазваляла будаваць другі. Тады сп. Аўдзейчык бяз згоды сваёй падначаленай ад ейнага імя піша заяву ў выканкам на выдзяленьне зямельнага ўчастка. І зноў жа не сама, а ўсю афёру даручыла афарміць галоўнаму эканамісту банку, старшыні прафкама Кіры Шапшэдавай. Тая зрабіла ўсё як трэба: напісала паперу, што адмаўляецца ад кватэры, падрыхтавала дакуманты на атрыманьне льготнае пазыкі пад будаўніцтва. І 23 сьнежня 1992 г. у Слонімскай натарыяльнай канторы складаецца дамова пра выдзяленьне ў бестэрміновае карыстаньне зямельнага ўчастка пад будаўніцтва дома на праве асабістай уласнасьці. Але дамова была падпісаная толькі галоўным архітэктарам горада Уладзімерам Казырновічам (ад імя выканкаму), а подпісу ўладальніцы ўчастку няма. І не магло быць, бо «ўладальніца» пра гэта ня ведала. Тым ня менш, гарадзкі натарыюс Ірына Давыдчык засьведчыла і зарэгістравала гэтую аднабаковую дамову. Вось і ўсе справы — будуецца.

І пабудаваліся. Ужо ў сьнежні 1993 г. у той жа натарыяльнай канторы пад пільным вокам той жа сп. Давыдчык афармляецца дамова куплі-продажу дому: падначаленая прадае дом сваёй начальніцы за ... 68 тысяч рублёў.

Вось так і жывём, так і будуемся. У Слонімскім гарвыканкаме 480 сем'яў з 1991 г. чакаюць сваёй чаргі на атрыманьне надзелу пад будаўніцтва дома. Гэта людзі, якія альбо зусім ня маюць жыльля, альбо жывуць у непрыдатных умовах. Тым часам дырэктар слонімскай фірмы «Грамадзкае харчаваньне» Башкірава 23 верасьня 1992 г. дорыць сваю кватэру дачцэ і ў гэты ж дзень падае ў выканкам заяву на атрыманьне ўчастка пад будаўніцтва маёнтка. І літаральна праз два месяцы ўлады выдзяляюць ёй зямлю. Але ўчастак ёй нечым не спадабаўся, і выканкам выпісвае сп. Башкіравай іншы.

Адзін з начальнікаў Слонімскага аўтарамонтнага заводу Эдуард Мурашка для пераканаўчасьці, што яму, нібыта, няма дзе жыць, вырабіў аж дзьве даведкі. У адной значыцца, што ён жыве на кватэры ў сваёй дачкі, а ў другой даведцы гаворыцца, быццам сп. Мурашка пакутуе ў інтэрнаце фабрыкі пер'е-пуховых вырабаў. Ды што там казаць. Праваадыр мясцовых камуністаў, дырэктар заводу сухога малака Міхаіл Джухоўскі, і той плюнуў на партыйную сьвядомасьць ды сацыяльную справядлівасьць і таксама адбудаваў сабе катэдж, бо надакучыла цясьніцца ўдвох з жонкаю ў трохпакаёвай кватэры.

Простаму чалавеку застаецца толькі чакаць, пакуль начальства задаволіць свае апэтыты.

**Алесь КАСЬПЯРОВІЧ**

## Справа пра крэдыты: каго ж пакараюць?

**Амаль два месяцы супрацоўнікі аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю разблытваюць клубок крымінальнай справы пра фіктыўныя даведкі, выдадзеныя Віцебскім гарвыканкамам.**

Асобы, якія быццам бы мелі патрэбу ў паляпшэньні жыльлёвых умоваў, бесьперашкодна атрымалі льготныя крэдыты на будаўніцтва індывідуальнага жыльля. Ніводнаму з чыноўнікаў пакуль не прад'ялена абвінавачваньне. Сьледчыя тлумачаць гэта неабходнасьцю дасканалай праверкі ўсіх матэр'ялаў справы.

**Іван ВАЛІН, БелаПАН**

# Мядовы месяц завяршыўся, спадар прэзыдэнт

Журналіст — прафэсія цынічная паводле сваёй прыроды. Сьвятога для нас нічога няма. Дзе б ні быў, што б ні рабіў, — заўважаем усялякую дробязь. Хоць бы, скажам, і ў адпачынку. Аўтар праводзіў яго на радзіме, дакладней, на гародзе з рыдлёўкаю. Але быў час пагаварыць пра тое-сёе са знаёмымі, суседзямі ды іншымі крыніцамі інфармацыі (прашу прабачэньня за цынізм, гл. вышэй)... Падчас выбараў прэзыдэнта (пасьля другога туру) у нас адбылася непрыгожая, нават трагічная гісторыя, прама зьвязаная зь вялікай палітыкай.

Адзначалі 50-годзьдзе вызваленьня Беларусі. У Доме культуры арганізавалі традыцыйны «агеньчык», куды мясцовыя ўлады запрасілі вэтэранаў. Гарэлку выставілі з разьліку адна бутэлька на дваіх. Канечне ж, хацелі дагадзіць старым — 10 ліпеня мае быць другі тур галасаваньня.

У выніку, аднаго вэтэрана проста з ДК адвезьлі ў рэанімацыю, дзе ён і пакінуў гэты сьвет. Яшчэ чалавек 6-7 прыйшлося развозіць па хатах на «хуткай дапамозе», калоць сардэчныя прэпараты і г. д. Так што выбары прэзыдэнта прайшлі не без ахвяраў. Запішам гэта на рахунак Вячаслава Францавіча...

11 ліпеня земляні хадзілі задаволеныя. Віншавалі адзін аднаго: «Вусаты перамог!» Была нават нейкая эйфарыя. Пад «вусатым» меўся на ўвазе, натуральна, Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка.

Што цікава: меркаваньні, калі можна так сказаць, «рэспандэнтаў» дзяліліся адлаведна ўзросту. «Патрэбен гаспадар і парадак, гэткі нэа-Сталін з андропаўскім адценьнем, спэкулянтаў пастраляць, перасаджаць, зрабіць таннаю гарэлку і каўбасу, бюракратаў разагнаць і таксама часткова пастраляць, аднавіць СССР», — такой праграмы патрабуюць ад Лукашэнкі людзі ад 45 і больш гадоў. Патрабуюць — значыць, даў падставу. Ужо цяпер зразумела, што Аляксандар Рыгоравіч іх чаканьні ня спраўдзіць. Падчас перадвыбарчае кампаніі гаварыць можна што заўгодна. Улада ў руках — гэта іншае. Гэта і адказнасьць таксама. Даводзіцца рабіць тое, што патрабуюць абставіны, а ня выбаршчыкі.

Для апошніх падаражаньне гарэлкі, хлеба, малочных прадуктаў было ўдарам. Вера ў куміра трохі пахіснулася. Але згадзіліся, што прэзыдэнту трэба дапамагчы, пацярпець. Відавочна, аднак, што цярпець давядзецца доўга. Можна сьмела прагназаваць: гэтая частка электарату прэзыдэнта даволі хутка ад яго адмовіцца.

Што датычыць больш маладых, дык тут, як і ў маёй любімай журналістыцы, пануе прыемны сэрцу цынізм і пошук голай выгады. Усе як адзін знаёмыя праявілі крыўдна малую цікавасьць да выбараў наагул і да фігуры прэзыдэнта ў прыватнасьці. Адзін на мае настойлівыя пытаньні адказаў раздражнёна:

— Вы ў сваіх Менсках зусім ашызелі! Няўжо Лукашэнка маіх дзяцей будзе карміць? Ну, наздымае адных, пасадзіць другіх: кралі адны, будуць красьці іншыя. Мне якая розьніца? Далі б зарабіць, а то ў Расею ўжо надакучыла езьдзіць...

Вось так: далі б зарабіць. Два словы, а тут вам і ўся праграма, і ўсе чаканьні. Маладыя чакаюць нармальнай эканомікі, жадаюць нармальна зарабляць і, натуральна, нармальна жыць. Прэзыдэнтам у нас цяжка стаць дурню, таму Аляксандар Рыгоравіч адразу пасьля выбараў зьмяніў акцэнты і апэратыўна перагледзеў свае некаторыя выказваньні. Аказалася, што яго няправільна зразумелі: ён заціты рынaчнік. Проста Лукашэнка выступаў за правільны рынак, а да гэтага быў няправільны. Так, глядзіш, наш прэзыдэнт паступова «скоціцца» да праграмы БНФ.

Ні старыя, ні маладыя земляні ўжо ня вераць у Лукашэнку як змагара з мафіяй. Шмат моладзі, зьвязанай зь нейкім бізнэсам, ня верылі й раней. Любы, хто сутыкаўся, ведае ступень скарумпаванасьці апарату. Гэтую гідру, безумоўна, не перамагчы нікому, мо толькі ўвесьці ў пэўныя межы.

Характэрна, што, пакуль прэзыдэнт купаецца ў промнях славы, давер да яго падае, дакладней — не расьце. Людзі ня вераць у паляпшэньне свайго жыцьця бліжэйшым часам. Хоць бы таму, што растуць цэны. І расьці яны будуць — гэта разумеюць усе. Разам з цэнамі расьце і скепсыс.

Калі прэзыдэнт будзе працягваць гульні свайго папярэдніка, ягоны безумоўны талент прамоўцы не дапаможа. Ні яму, ні, зразумела, нам.

**Андрэй ШАВАНДА**

# 400 грамаў крыві за Ф. Ніцшэ

Еду ў тралейбусе, чую размову двух крыху пакамечаных мужычкоў:

— Учора кроў здаў, дык «пагудзелі» трохі...

— А дзе здаваў?

— У Навінках.

У Навінках ня толькі псыхіятрычны шпіталь, ёсьць яшчэ станцыя пераліваньня крыві. Кожнага ранку аўтобус № 18 вывальвае тут ахвотных прадаць сваю кроў. Прама ад грыгынку народ ляціць ледзь ня бегма: спознішся — будзеш апошнім.

Я нават не здагадваўся, што гэты від заробку дасягнуў такой масавасьці.

Яшчэ гады з два таму за донарства не плацілі. Мэта была адна: лішні дзень-два да адпачынку. Зараз плацяць, і даволі добра. Стандартная доза 400 грамаў крыві — 99 тысячаў рублёў (цяпер — 9,9). Яшчэ даражэй плазма — за 800 грамаў 199 тысяч (19,9). Зусім дарагія нейкія заімунныя дачы, тут можна атрымаць 399 тысяч (39,9) рублёў.

На «дурніцу» сюды не праскочыш: трэба здаць кроў на аналіз, прайсьці тэрапэўта і на любым з этапаў «вялікага крывавага шляху» можна разьвітацца з марaю пра «дурны» заробак.

Прыкладна 250 чалавек таўкліся разам са мною ў адзін зь нядаўніх ранкаў. Прымаюць кроў да 14 гадзін. А 18-ы аўтобус ходзіць спраўна. Думаю, за дзень тут праварочваецца больш за паўтысячы чалавек. Вядома, што гэткім чынам многія зарабляюць на выпіўку. Аднак большасьць — людзі даволі прыстойнага выгляду, шмат жанчынаў. Прыходзяць сюды не ўпершыню.

«А што вы хацелі — кажа мне адна жанчына, калі я пачаў распытваць, — мяне «скарацілі», мужу плацяць «чыстымі» паўмільёна. Двое дзетак. Ну і як пражыць? Таму і здаю кроў кожны месяц...»

Інтэлігентнага выгляду мужчына здае кроў, бо не хапае на трохтомнік Ніцшэ (крыху экзатычна). Дзяўчына, як высьветлілася, адна гадуе дзвюх дачок... У кожнага свая прычына і сваё гора.

А ўсё разам гэта называецца краіна «трэцяга сьвету». Ня трэба статыстыкі і глыбакадумных разважаньняў. Усё і так ясна. Людзям жа не хапае грошай, і яны ня ведаюць іншага спосабу іх зарабіць. Застаецца дадаць, што гэты від заробку вельмі распаўсюджаны ў многіх краінах Афрыкі, Азіі і Паўднёвае Амэрыкі.

**Сяргей ПАЎЛАЎ**



# Беларусь здольная сябе пракарміць

Заходнія спэцыялісты вывучаюць стан нашай гаспадаркі

**Сара Хэрст, журналістка зь Вялікабрытаніі, правяла ў нашай краіне чатыры месяцы. Яна дасьледавала становішча сельскай гаспадаркі на Беларусі. Сваімі назіраньнямі сп. Хэрст падзялілася з карэспандэнтам менскай англамоўнай газэты *Minsk Economic News*.**

Сп-ня Хэрст зьвяртае ўвагу на тое, што Беларусь зноў «захапілі» немцы, але гэтым разам «уварваньне» адбылося на запрашэньне саміх беларусаў. У Менск адна за адной накіроўваюцца групы нямецкіх спэцыялістаў з энэргетыкі, транспарту, эканомікі і сельскае гаспадаркі ў суправаджэньні сваіх калегаў з усіх краінаў Эўрапейскага Зьвязу.

У Беларусі праводзяцца або ўжо завяршыліся каля 45 праектаў TACIS (тэхнічная дапамога краінам СНД), што спансуюцца заходнеэўрапейскімі краінамі. Зараз Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі зьдзяйсьняе чатыры праекты TACIS з агульным бюджэтам 5.213.510 ECU (каля 6,5 млн USD), якія даюць магчымасьць заходнім спэцыялістам працаваць ад аднаго да двух з паловаю гадоў поруч сваіх беларускіх калегаў, вывучаючы сыстэмы вытворчасьці і перапрацоўкі харчовых прадуктаў, пакаваньня, гуртовага і раздробнага гандлю сельгаспрадукцыяй, а таксама адбіраючы прадпрыемствы, якім варта было б выдзеліць пазыку з Эўрапейскага банку рэканструкцыі й разьвіцьця.

Сара Хэрст адзначае, што перад беларускай сельскай гаспадаркай зараз стаіць некалькі найважнейшых праблемаў. Найперш, гэта састарэлае абсталяваньне. Гэтая праблема паўстае асабліва востра з харчовымі прадуктамі, якія хутка псуюцца. Напрыклад, малако недастаткова ахалоджваецца на фэрмах і потым перавозіцца ў неахалоджаных ёмістасьцях, дзе, асабліва ўлетку, ёсьць усе ўмовы для памнажэньня бактэрыяў. На кансэрвавых заводах усе гігіенічныя мерапрыемствы зводзяцца да выкарыстаньня швабры і бруднай анучы. Натуральна, патэнцыйныя замежныя інвэстары бачаць непрымальныя ўмовы і добра задумваюцца, ці варта ўкладаць капітал у беларукія прадпрыемствы.

Другая паважная перашкода на шляху рэформаў — гэта хітраспляценьні дзяржаўнага рэгуляваньня, якія зьвязваюць беларускага прадпрымальніка па руках і нагах. На думку Пэтэра Гёдыке, кіраўніка групы TACIS па перапрацоўцы харчовай прадукцыі, «урад можа зьменшыць свой адмоўны ўплыў на прыватныя прадпрыемствы, калі адмовіцца ад заганнай практыкі кантролю цэнаў і плянаваньня сельгаспрадукцыі».

Нарэшце, трэцяй праблемай, якая моцна абвастрыла ўсе папярэднія недахопы, што вынікалі з развалу палітычнай і эканамічнай сыстэмы савецкай эры, сталася чарнобыльская катастрофа. У выніку яе з сельскагаспадарчага ўжытку выключаны 300 000 га зямлі. І хоць ураджай, сабраны на астатняй тэрыторыі, не забруджаны радыяцыяй, заходнеэўрапейскія фірмы адмаўляюцца яго купляць, баючыся радыяцыі. Такім чынам, краіны СНД, на думку брытанскай журналісткі, напэўна, застануцца найбуйнейшым экспартным рынкам для беларускай сельгаспрадукцыі. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасьці, зьяўляюцца прыклады станоўчых зрухаў. Так адна амэрыканская кампанія намерана выкарыстоўваць вырашчаны ў Гомельскай вобласьці рапс для вытворчасьці дызэльнага паліва.

Увогуле ж, Сара Хэрст мяркуе, што Беларусь цалкам здольная сябе пракарміць. І хоць наш клімат не дазваляе атрымліваць багаты ўраджай алейных культураў, 80% якіх мы вымушаныя імпартаваць, адзін з праектаў TACIS скіраваны на тое, каб Беларусь змагла забясьпечыцца і гэтай прадукцыяй.

Падрыхтаваў **В. Ш.**

# Несапраўднае жыцьцё ў несапраўднай краіне

**У маім замежным пашпарце катэгарычна сьцверджана, што ён зьяўляецца ўласнасьцю «Союза Советских Социалистических Республик». Пашпарт я атрымаў сёлета...**

Чаго дзівіцца, калі падчас выбарчай кампаніі Лукашэнка-кандыдат абурана «тапіў» свайго канкурэнта за подпіс пад Белавескімі пагадненьнямі, якія далі Беларусі сапраўдны шанц на незалежнасьць. А той, другі, нягегла спрабаваў «самарэабэлітавацца» і казаў, што нічога не падпісваў.

Сумна ўсё гэта. Сумна, калі, прыкладам, КДБ перасяліўся з Масквы ў Менск. У іншых краінах арганізацыя з такою назваю даўно не існуе, а ў нас яна нават замацавана ў канстытуцыі. Сумна, калі «дзеля эканоміі» на гмаху аблвыканкаму не павесілі Пагоню на вызваленае ад старога герба месца. Цяпер ужо, мабыць, знойдуць тыя некалькі мільёнаў, бо над Домам ураду, нарэшце, герб зьмянілі.

Старую сымболіку, дарэчы, паўсюдна павінны былі замяніць на працягу двух гадоў пасьля жнівеньскага путчу... Любая краіна, народ, урад, якія сябе паважаюць, ніколі б не дапусьцілі падобнага. У летувісаў, вунь, узьняўся скандал толькі з-за таго, што ў Вільні на некалькіх шыльдах застаўся стары надпіс на летувіскай жа мове «Літоўская ССР». У Беластоку я сам быў сьведкам, як у 90-м годзе палякі пасьля вяртаньня свайму гербаваму арлу кароны хуценька дамалявалі яе на ўсіх шыльдах.

## Геаграфічныя непаразуменьні

Прыгадваю, як прыкладна год таму нашая амбасада ў Варшаве, калі ёю кіраваў цяперашні міністар замежных справаў, спрабавала змусіць палякаў замест літары «я» ў слове «Беларусь» ужываць «е». Мне асабіста гэта падалося наіўным патрыятызмам. А як адрэагавалі палякі? «Мы папрасілі сваіх журналістаў прыслухацца да думкі беларускага боку, але ж загадаць ім мы ня можам,» — казаў мне сёлета ў Варшаве кіраўнік польскай урадавай камісіі па тэлевізіі і радыё сп. Мацей Ілавецкі.

Некаторыя ў нас абураюцца, што расейцы зноў гавораць «Белоруссия», бачачы ў гэтым праяву вялікадзяржаўніцтва. Прычым гэта датычыць «Астанкіна», на РТР карыстаюцца нашым словам «Беларусь».Ну і што? Мне асабіста апошняе здаецца больш русіфікаваным. Раскладзіце на часткі — і атрымаецца «Белая Русь». Карацей, Славянскі сабор. А «Белоруссия» болей, па-мойму, зьвязанае з лацінкаю — «Alba Russia»... Летувісы, дарэчы, нядаўна спрабавалі дыктаваць палякам на афіцыйным узроўні, каб тыя замест «Вільня» ўжывалі «Вільнюс». Патрабаваньне выглядала недарэчным.

Вось і нам спачатку варта разабрацца ва ўласнай гаспадарцы. Мяне абурае, калі беларускае агенцтва паведамляе пра станцыю «Адуцішкіс», хаця яна называецца «Гадуцішкі», прычым знаходзіцца на беларускай тэрыторыі. Мяне абурае, калі на чыгуначным вагоне чытаю шыльдачку «Мінск — Сакулка». Калі аўтары мелі на мэце захаваць беларускімі літарамі польскае вымаўленьне, дык неабходна было яшчэ дадаць абавязкова мяккі знак, бо палякі менавіта так вымаўляюць «Міньск». Вакол Саколкі разам з палякамі заўжды жылі і жывуць беларусы, якія толькі гэтак называюць сваё мястэчка, у тым ліку на радыё і друкавана — у той жа газэце «Ніва». Нікому ж пакуль у нас не прыходзіць да галавы пісаць на польскі лад «Бялысток».

Калі мы сябе хоць крыху паважаем, дык ня будзьма чапіцца да суседзяў, а перш за ўсё зробім парадак дома. Днямі, напрыклад, прачытаў у абласной газэце аб'яву пра паслугі нейкае фірмы, якая перавозіць грузы ў межах «Белоруссии и СНГ». Слова «Белоруссия» ўсё часьцей трапляецца ня толькі ў напісаных ад рукі абвестках, але нават у рэклямах беларускага тэлебачаньня.

## Дзірка ад абаранка

Калі дэ Голь у 1958-м прыйшоў да ўлады, дык заявіў: гэта ганьба, што французы мусяць плаціць за адзін амэрыканскі даляр ажно пяцьсот франкаў. Адбылася грашовая рэформа і зьнік з грошай адзін нуль... У нас дэнамінацыя дастаткова безбалесная, бо ня трэба друкаваць «зубры» новага ўзору, паколькі неабходна ўсяго толькі выкінуць з галавы ўяўны нуль. Сто рублёў больш ня будуць лічыцца за тысячу. Голы кароль аказаўся голым. Лопнула мыльная бурбалка. Даляр цяпер каштуе «ўсяго» каля трох тысяч рублёў, але ганьба, што мінімальны заробак вызначаны ў нас жабрацкімі дзесяцьцю тысячамі.

## Правілы дарожнага руху

Дэ Голь, як вядома, не герой А. Лукашэнкі, прэзыдэнту падабаецца Дзяржынскі. Францускі генэрал даспадобы З. Пазьняку, роля якога ўвесь час акрэсьліваецца вельмі своеасаблiва. Улады стараюцца адштурхнуць Пазьняка, але ў выніку адштурхоўваюцца самі, прычым у прапанаваным ім кірунку, і мусяць дзейнічаць паводле правілаў, якія дагэтуль зацята адмаўлялі.

Інакш кажучы, як толькі Лукашэнка апынуўся пры дзяржаўным стане, дык адразу адчуў, што нельга ігнараваць правілы дарожнага руху і езьдзіць пасярэдзіне або цішком прычапіцца да каго-небудзь ззаду. Але тыя правілы не Пазьняк прыдумаў, яны ўнівэрсальныя. Хаця наша дарожная міліцыя, якая дагэтуль па-савецку называецца ДАІ, мяркуе крыху йнакш. У тэлевізійнай «Панараме» яна прапагандуе бясьпеку руху пры дапамозе анімацыйнага роліка «Ну какой же русский не любит быстрой езды!»

Не, не палякаў нам вучыць трэба,а самім перш усьвядоміць і вырашыць для сябе, ці існуе дзяржава Беларусь, бо пакуль ня ўсе ў гэтым перакананыя. Калі ў адным гарадзенскім экскурсійным бюро ўлетку ашукалі кліента, дык растлумачылі яму прычыну: «У нас сегодня в Союзе везде бардак». Або іншы прыклад. Адна менская фірма выпусьціла нядаўна ў Беларускім доме друку ангельскі размоўнік, падрыхтаваны менскімі аўтарамі. Кніжка прадавалася паўсюль у нашых кнігарнях. Зь ёй у кішэні вы можаце паехаць за мяжу і растлумачыць там па-ангельску, якое маеце грамадзянства і адкуль прыехалі... Але вам давядзецца назвацца сэнэгальцам ці замбійцам, або ў лепшым выпадку жыхаром Барбадосу ці Бангладэш, каб ужо быць на літару «б». Справа ў тым, што з усіх постсавецкіх краін у кніжцы ўказаная адна толькі Расея. І нікому з тых, хто рыхтаваў размоўнік да друку, не прыйшло да галавы, што, калі ёсьць Беларускі дом друку, дык, напэўна ж, існуе і краіна з такою назваю.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Ці варта ісьці славацкім шляхам?

Цалкам верагодна, што Аляксандру Лукашэнку спадабаецца, як славацкія ўлады высьвятляюць „чысьціню грошай"

**26—27 жніўня прэзыдэнт Лукашэнка зьбіраецца наведаць Браціславу, дзе будуць сьвяткаваць 50-я ўгодкі Славацкага паўстаньня**

Славаччына, адна з найбольш блізкіх Беларусі ў геаграфічным, эканамічным і культурным аспэкце краінаў Цэнтральна-Ўсходняе Эўропы, стаіць перад шэрагам праблемаў, ад вырашэньня якіх залежаць дабрабыт людзей і стабільнасьць у рэгіёне.

Сярод такіх праблемаў можна згадаць і напружанасьць паміж славакамі ды вугорскай нацыянальнай меншасьцю, і няпростыя дачыненьні з Чэхіяй, і нетрываласьць дэмакратычных інстытутаў. Але самая надзённая тэма, якая закранае ўсе пласты грамадзтва, — гэта ход рынкавых рэформаў і, у прыватнасьці, прыватызацыі.

Паколькі прыватызацыя ў Беларусі толькі-толькі пачынае набіраць абароты, дык варта было б прыгледзецца да посьпехаў і памылак краіны, якая апярэджвае нас у гэтым працэсе на некалькі крокаў.

Як адзначаюць заходнія сродкі масавай інфармацыі, прыватызацыя ў Славаччыне пасоўваецца вельмі павольна. На шляху інвэстараў тут паўстае шмат бюракратычных перашкодаў. У краіне амаль штомесяц мяняюцца «правілы гульні», а апошняе рашэньне славацкага парляманту наагул паставіла пад сумнеў працэс разьдзяржаўленьня маёмасьці. Напрыканцы сваёй апошняй сэсіі перад датэрміновымі выбарамі дэпутаты прынялі новы закон. Паводле яго, усе, хто мае жаданьне ўзяць удзел у прыватызацыі, з гэтага часу абавязаныя даказаць чэснае паходжаньне сваіх грошай. Дзеля гэтага і славацкія, і замежныя інвэстары павінны будуць падаць на разгляд масу дадатковых дакумантаў з самых розных інстанцыяў. Зразумела, што новага капіталу гэта не прыцягне, а, хутчэй за ўсё, наадварот, стрымае інвэстараў.

Але славацкіх дэпутатаў можна зразумець. Не за гарамі выбары, і парлямантарыі спадзяюцца, што выбаршчыкі ацэняць клопат дэпутатаў «аб справядлівасьці».

Цікава тое, што месяц таму гэты ж парлямант даручыў прэзыдэнту Славаччыны Міхалу Ковачу прызначыць рэфэрэндум па пытаньні «чыстых грошай». З прыняцьцем адпаведнага закону было б лягчэй скасаваць рэфэрэндум, але парлямант зрабіць гэта адмовіўся. Міхалу Ковачу не засталося нічога іншага, як прызначыць дату рэфэрэндума. Такім чынам, 2 кастрычніка славакам прыйдзецца адказваць на пытаньне: «Ці згодныя вы, каб быў прыняты закон, што абавязвае даказаць паходжаньне ўсіх фінансавых сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для прыватызацыі?»

Цяпер, калі большыня грамадзянаў адкажа на гэтае пытаньне станоўча, дык здарыцца беспрэцэдэнтнае: «чысьціню» сваіх грошай прыйдзецца даводзіць ня толькі тым, хто намераны удзельнічаць у прыватызацыі, але й усім тым, хто з 1991 г. пасьпеў ужо ўкласьці ў прыватызаваную маёмасьць вялікія сродкі. Цяпер славацкія і замежныя бізнэсмэны павінны будуць добра задумацца, ці варта ўвогуле рызыкаваць сваімі капіталамі ў такіх неспрыяльных і заблытаных умовах. Такім чынам, вялікае актыўнасьці на конкурсах і аўкцыёнах у Славаччыне не прадбачыцца.

Дарэчы, «ваўчарная» прыватызацыя, што мела пачацца ў верасьні, таксама забуксавала. Міністар эканомікі Петэр Магвашы заявіў нядаўна, што распачаць у бліжэйшы час выпуск ваўчараў нерэальна. Характэрна, што сп. Магвашы належыць да посткамуністычнае Партыі дэмакратычных левых, якая наагул стрымана ставіцца да ідэі прыватызацыі. Затое яна выступае за большыя льготы для працоўных калектываў. Гэта вельмі нагадвае беларускую сытуацыю, ці ня праўда? У нас таксама дзяржавай і эканомікай кіруюць людзі, што як чорт крыжа баяцца аднаго слова «капіталізм». З такой камандай заходні дастатак нам «не пагражае».

Прыватызацыя ўжо даўно застаецца найбольш балючай праблемай у славацкай палітыцы. Менавіта спрэчкі вакол гэтай тэмы прывялі ўвесну да адстаўкі з пасады прэм'ера папуліста Уладзімера Меч'яра. Зараз расклад палітычных сілаў у краіне такі, што на датэрміновых парляманцкіх выбарах, што маюць адбыцца ў канцы верасьня, выразнага пераможцы, мусіць, ня будзе. Урад, хутчэй за ўсё, будзе кааліцыйны, і гэты ўрад будзе фармавацца на тле папулісцкае прапаганды перад рэферэндумам. Рыторыка «сацыяльнае справядлівасьці» абавязкова накладзе свой адбітак і на склад, і на праграму наступнага кабінэту.

**Падрыхтаваў Вінцук ШОСТКА**

# ГЕНЭРАЛ, ЯКІ ПІСАЎ ВЕРШЫ

**Генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч (1883—1940) быў сьвядомым антыкамуністам. Свае погляды яму прыйшлося адстойваць у арміях розных дзяржаваў. Ён узначальваў корпус у генэрала Юдзеніча на тэрыторыі Латвіі й Эстоніі (1919 г.). Але менавіта Булак-Балаховіч 20 студзеня 1920 г. арыштаваў Юдзеніча, каб прадухіліць вываз ім за мяжу касы расейскага паўстанцкага войска. Гэтым жа часам генэрал стварае свой корпус, які ўжо канкрэтна завецца Беларускім армейскім корпусам. Булак-Балаховіч разгортвае калясальную дзяржаваствармльніцкую дзейнасьць. Варта толькі сказаць, што ў канцы 1919 — пачатку 1920 гг. выпускаюцца першыя беларускія паштовыя маркі (нізка «Асобны атрад»), зарганізоўваецца сама паштовая служба.**

**Але пасьля падпісаньня міру паміж Эстоніяй і Савецкай Расеяй Булак-Балаховіч вымушаны шукаць новага саюзьніка. Гэтым разам ім стала Польшча. У пачатку сакавіка 1920 г. генэрал разам са сваім корпусам перасякае польска-бальшавіцкую лінію фронта пад Дзьвінскам і працягвае барацьбу з бальшавізмам. Але й Польшча ў сваю чаргу замірылася з Саветамі. Пачаўся працэс польска-расейскае змовы супраць Беларусі, што пазьней было аформлена Рыскай дамовао 1921 г.**

**Alea jacta est! Выбар зроблены! 5 лістапада 1920 г. 20-ці тысячнае войска Булак-Балаховіча пераходзіць польска-савецкую дэмаркацыйную лінію і пачынае сваю самастойную вайну за вызваленьне Беларусі. Пра гэтыя падзеі і будзе распавядацца ў фрагмэнтах, якія СВАБОДА перадрукоўвае з кніжкі польскага дасьледчыка Марэка Цабаноўскага «Генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч» (Сэрыя «Забыты герой), што летась выйшла ў Варшаве.**

**Вакол імя Булак-Балаховіча заўжды існавала нейкая аўра, каторая прыцягвала самых нечаканых людзей у ягоны корпус. Тут існавалі асобныя аддзелы татараў, шмат было ў ягоным войску расейцаў, пэўны час пры штабе Булак-Балаховіча знаходзіўся Барыс Савінкаў. Дачуўшыся пра мэты і прынцыпы генэрала, у ягоны корпус, калі ён знаходзіўся ў Пінску, добраахвотна прыбылі дацкія афіцэры, каб сфармаваць замежны легіён. А швэдзкі афіцэр-добраахвотнік быў лыжным інструктарам і зарганізоўваў зь беларускіх жаўнераў лыжны аддзел. Пазьней Булак-Балаховічу закідалі абвінавачаньні, што ягоныя жаўнеры бралі ўдзел у антысэміцкіх акцыях. Але ў шэрагах корпусу Булак-Балаховіча ваяваў Жыдоўскі швадрон, які так афіцыйна і называлі. Самога Булак-Балаховіча і жаўнеры, і мяйсцовыя жыхары называлі «бацькам».**

**Акрамя ўсяго — генэрал пісаў вершы.**

**Ян ГРЭЧЫЦ**

Польскі Сэйм 15 кастрычніка 1920 г. запатрабаваў ад свайго вярхоўнага камандаваньня выканаць пастановы пра роспуск няпольскіх вайсковых атрадаў (атамана Сямёна Пятлюры і генэрала Станіслава Булак-Балаховіча); яны павінны былі раззброіцца або пакінуць тэрыторыю Польшчы да 2 лістапада.

18 кастрычніка 1920 г. на польска-бальшавіцкім фронце змоўклі стрэлы. Надышоў час вырашэньня лёсу ген. Станіслава Булак Балаховіча.

*Пазьней, узгадваючы свой палескі паход 1920 г. у інтэрвію расейскай эміграцыйнай газэце «Свобода» ад 5 сьнежня 1920 г., ён сфармуляваў свае мэтоды барацьбы з бальшавікамі.*

*У прыватнасьці генэрал заявіў: «Лічу, што сваё заданьне я выканаў. Мой паход быў удалы. Тое, што частка маіх войскаў была раззброеная, не зьніжае значэньня маіх апэрацый. А тыя, бясспрэчна нявыгадныя варункі, у якіх маё войска мусіла змагацца з бальшавікамі, тым больш дазваляюць мне сьцвердзіць, што ў справе барацьбы зь імі на першае месца належыць вылучыць пытаньне пра мэтоды.*

*Мэтоды барацьбы з бальшавікамі.*

*— Дык як, на вашую думку, належыць змагацца з бальшавікамі?*

*— Іхняю ж зброяй, г. зн. шляхам рэвалюцыйнае прапаганды, уздымаючы паўстаньні сярод насельніцтва, якое на Беларусі ненавідзіць камуністаў. Я шанаваў генэрала Ўрангеля як барацьбіта супраць агульнага ворага. Я заўсёды лічыў ягоную ролю ў змаганьні з бальшавізмам даволі важкай, — працягваў далей генэрал, — але заўжды крытыкаваў ягоныя мэтоды. Падзеньне Ўрангеля было для мяне бясспрэчнае, бо я ведаў лёзунгі, пад якімі ён ішоў супраць бальшавікоў. У барацьбе зь імі ёсьць толькі адна дарога. І гэты шлях вядзе да разгрому Чырвонай Арміі праз дэмакратычныя лёзунгі. Нашыя дэмакратычныя лёзунгі блізкія шырокім масам. І ў гэтым я бачу пачатак нашага посьпеху».*

*Генэрал Балаховіч, адзначае газэта, цяпер вельмі папулярны сярод сялянаў і, нават, Чырвонай Арміі. Ягоны галоўны лёзунг: «Досыць вайны, бальшавік — прычына ўсіх вашых няшчасьцяў».*

Шчыра дэмакратычны характар ягонай арміі (г.зн. коньніцы і 1-й Дывізіі сьмерці) вельмі папулярны паміж сялянства. Пасьля адступленьня генэрала Балаховіча пэўная частка ягоных людзей перайшла са зброяю ў руках да т. зв. зялёных, якія робяць напады на бальшавіцкія тылы. «Зялёныя» на Беларусі ўяўляюць сабою вельмі паважную сілу. Раён Мазыра, Бабруйска, Жлобіна заняты іхнымі атрадамі (сілаю) ад 500 да 1000 чалавек.

Да войска Булак-Балаховіча далучылася брыгада сялянскае пяхоты на чале з атаманам Іскрам. Армія генэрала Балаховіча папоўнілася на той час двума атрадамі коньніцы, двума батальёнамі беларускай пяхоты, падразьдзяленьнямі артылерыі й сувязі. Прыбылі ўсе запасныя атрады, усе тылы і папаўненьні, якія падчас баёў знаходзіліся ў Любліне, Варшаве, Радаме і Калішы. Так у ваколіцах Пінска, Лунінца, Кажан-Гарадка Давыд-Гарадка і яшчэ некалькіх мясцовасьцяў адбылася поўная канцэнтрацыя атрадаў, падначаленых генэралу Балаховічу.

Армія складалася галоўным чынам з жаўнераў родам з Палесься й Піншчыны. Вартасьцю гэтых людзей было, перш за ўсё, веданьне варункаў будучай баявой тэрыторыі.

Плян дзеяньняў добраахвотнай арміі прадугледжваў заняцьце лініі Оўруч-Мазыр-Жлобін як падставы для далейшага наступленьня на Бабруйск і Барысаў. Гэтыя дзеяньні мусілі задаць пачатак вызваленьню Беларусі. Сканцэнтраваныя войскі добраахвотнікаў пайшлі 5-га лістапада з-пад Турава — ужо па савецкім баку — у наступ. Перад войскамі Балаховіча стаялі моцна расьцярушаныя атрады 16-й савецкай арміі. На працягу двух дзён генэрал Балаховіч дасягнуў раёну Масевічы-Петрыкаў. 9-га лістапада палкоўнік Паўлоўскі разьбіў пад Раманаўкай 84-ы савецкі пяхотны полк і позьнім вечарам распачаў бой з 83-ім палком. Палкоўнік Мацьвееў пасля шматлікіх сутычкаў з праціўнікам таго ж самага дня заняў Скрыгалоў. А наступным вечарам ён здабыў Майсееўку і Скрыгалоўскую Слабаду. У ягоныя рукі патрапіў штандар 10-га коннага палку. Палкоўнік Жгун заняў Жахавічы і Касцюховічы.

10-га лістапада фронт пралягаў праз Капаткевічы — раку Пціч — Майсееўку — Скрыгалоўскую Слабаду і Раманаўку. Таго ж самага дня палкоўнік Мацьвееў заняў Хамічкі, Прудок і далей сутыкнуўся з 86-м і 87-м палкамі савецкай пяхоты, лінія абароны якіх была ключом да Мазыра. Пераламіўшы апошняе супраціўленьне ворага пад Драздамі, Пскоўскі полк у 16.40 заняў Мазыр. Тым часам група палкоўніка Паўлоўскага заняла ў атацы Вялікае



Генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч

Зімовішча, здабыла 50 палонных і 2 кулямёты. Адначасова партызанскі полк перакрыў саветам шлях да адступленьня, захапіў 200 палонных і яшчэ 2 кулямёты. Гэтыя войскі пасьля злучэньня ў Мазыры ўтварылі там з палонных Мазырскі полк з 300 жаўнераў.

Атрад палкоўніка Жгуна заняў — пасьля пераправы цераз Прыпяць — мястэчка Калінкавічы і аднайменную чыгуначную станцыю. Адначасова, пашкодзіўшы чыгунку, перакрыў шлях савецкаму бронецягніку. Аднак далейшыя баі ў гэтым раёне прынесьлі войскам Балаховіча няўдачу. Так пад канец 10 лістапада лінія гэнэрала Балаховіча праходзіла праз Якімавічы-Кацуры-раку Прыпяць і Матранкі.

У ноч з 11 на 12 лістапада капітан Вайцяхоўскі з часткаю Пскоўскага палка ажыцьцявіў налёт на штаб 28 брыгады і 83-і полк, што стаялі ў Міхалках, і дасягнуў посьпехаў: камбрыг і палітрук брыгады загінулі, камандзер палка, 300 чалавек , абоз і 8 кулямётаў трапілі ў рукі балахоўцаў. 14 лістапада Менскі і Астроўскі палкі адбілі ў саветаў Калінкавічы.

Флянгавая група палкоўніка Мікошы перайшла па тонкім лёдзе Прыпяць (10.11), дасягнула Петрыкава і рушыла на Калінкавічы. Галоўныя сілы палкоўніка Мікошы дайшлі 14 лістапада да Калінкавічаў і Якімовічаў і 15 лістапада пайшлі на Жлобін. На паўднёвым крыле сялянская брыгада атамана Іскры, не сустрэўшы вялікага супраціўленьня, дасягнула 11 лістапада Лельчыцы, а 14 лістапада рушыла на Оўруч.

Генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч 12 лістапада ў Мазыры абвясьціў незалежнасьць Беларусі і распачаў стварэньне беларускага нацыянальнага войска. Сам ён стаў галоўным камандзерам на тэрыторыі ўсёй Беларусі, а ягоны брат Язэп, які на той момант таксама атрымаў генэральскае званьне, — камандзерам добраахвотнага войска. Балаховіч выдаў некалькі дэкрэтаў і загадаў, між іншым супраць рабункаў і пагромаў, пра папярэджаньне камуністычных дывэрсіяў у тылох і пашырэньне прапаганды ў палкох.

15 лістапада палкоўнік Мацьвееў заняў Вялікія Аўцюцэвічы і Хабна, а 16 — Маканавічы і Бабылёў. Наступнага дня ён увайшоў у Карыстан.

У гэты час савецкая абарона пачала ўзмацняцца, а сярод балахоўцаў зьявіліся першыя прыкметы маральнага разлажэньня. Палкоўнік Мацьвееў, атрымаўшы памылковую інфармацыю пра наступ ворага, прыняў рашэньне пра адступленьне да Мазыра. 16 лістапада палкоўнік Мікоша пацярпеў паразу ў сутычцы з 143-й савецкай брыгадай. Ноччу з 17 на 18 лістапада Балаховіч пакінуў Мазыр. Распачалося адступленьне галоўных сілаў у напрамку польскае мяжы. Нягледзячы на паважныя спробы праціўніка, перашкодзіць адыходу не ўдалося, і 26 лістапада галоўныя сілы: 2-я і 3-я дывізіі, Пуціўскі і Тульскі палкі, а таксама полк драгунаў перайшлі мяжу Польшчы.

Савецкае камандаваньне, ня здолеўшы перашкодзіць адступленьню 2-е і 3-е дывізій, перакінула ўсе свае сілы супраць добраахвотных атрадаў, што адступалі з-пад Рэчыцы.

Асобнаю эпапэяй стала вяртаньне палкоўнікаў Мацьвеева, Паўлоўскага ды самога генэрала Балаховіча. Ва ўмовах пагоні і акружэньня, выкарыстоўваючы памылкі праціўніка й характар лясістае ды балоцістае мясцовасьці, яны з мінімальнымі стратамі дабраліся да Польшчы. Адзначым, што гэта ні ў якім выпадку не было панічнае ці хаатычнае адступленьне. Атрады не пазьбягалі баёў, зьбіваючы з тропу непрыяцеля, часта выходзілі ў варожыя тылы, бралі па дарозе палонных, іншыя ваенныя трафеі.

Ацэньваючы дзеяньні гэнэрала Балаховіча, генэрал Сіманскі піша, што посьпехі Балаховіча праявіліся ў хуткасьці, зь якою ён дасягнуў Дняпра, а пазьней — у перамозе ў некалькіх баёх з 10-й савецкай пяхотнай дывізіяй і яе падмацаваньнямі, нарэшце, у прарыве да польскае мяжы. Славуты вывад Балаховічам маленькага атраду з пасткі яскрава пацьвярджае ягоны камандзерскі талент, — піша Сіманскі. Затое не відаць кіраваньня дзеяньнямі большых падразьдзяленьняў. Падводзячы вынікі, Сіманскі слушна заўважае, што няўдача добраахвотнага войска палягала перш за ўсё на занадта спозьненым пераходзе да дзеяньняў. Пасьля роспуску добраахвотнае войска было пазбаўленая моцнай падтрымкі польскага войска, і сутыкнулася са значнаю перавагаю сілаў ворага. У такіх варунках дзеяньні добраахвотнага войска Сіманскі ацэньвае як безнадзейныя. Да таго ж, беларускія сяляне абыякава ставіліся да злучэньняў Балаховіча з увагі на малы абсяг дзейнасьці і слабую прапаганду палітычнай праграмы.

У канчатковых высновах генэрал Сіманскі сьцвярджае, што пасьля заключэньня Польшчаю замірэньня 12 кастрычніка 1920 г. выхад на баявыя пазыцыі недастаткова падрыхтаваных добраахвотных фармаваньняў ня меў дастатковага тактычнага абгрунтаваньня і, з увагі на цэлы шэраг умоваў, быў з самага пачатку асуджаны на няўдачу. Аднак пачуцьцё гонару не дазволіла добраахвотным войскам скласьці зброю, не скрыжаваўшы яе з саветамі.

У Мазыры, як вядома, Балаховіч распачаў палітычныя дзеяньні згодна з мэтамі сваёй кампаніі. 16 лістапада 1920 г. ён склікаў Урад Беларускай Рэспублікі. У склад ураду, які, на жаль, праіснаваў вельмі нядоўга, увайшлі наступныя палітыкі: народнік Мечыслаў Адамовіч — старшыня Рады Міністраў, народны сацыяліст Павел Аляксюк — намесьнік старшыні Рады Міністраў, палкоўнік Бяляеў — вайсковы міністар і Язэп Сяňкевіч — міністар фінанасаў, гандлю і прамысловасьці.

Балаховіч жа прыняў на сябе камандаваньне беларускай арміяй, зародак якога пачаў ствараць, даручыўшы кіраўніцтва добраахвотным экспэдыцыйным корпусам, зь якім і пайшоў з Польшчы, свайму брату Язэпу.

Урад абвясьціў сваю палітычную праграму, заснаваную на наступных прынцыпах:

1. Барацьба за незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі;
2. Скліканьне ў як найбліжэйшы тэрмін канстытуцыйнага прадстаўніцтва;
3. Зямельная рэформа з упарадкаваньнем прыватызацыі буйное ўласнасьці;
4. Будаўніцтва беларускай дзяржаўнасьці ў шчыльным зьвязе з Польшчай, з апораю на дзяржавы Антанты.



*Першыя беларускія паштовыя маркі. Нізка «Асобны атрад». Выпушчаныя ў канцы 1919 - пачатку 1920 гг. падчас дыслякацыі корпусу Ст.Булак-Балаховіча на тэрыторыі Латвіі й Эстоніі.*

## Не давайце дурням брытву

**Распачатая яшчэ пры Кебічы вайна супраць «валютчыкаў» пасьпяхова працягваецца.**

Ахвяраю гэтай вайны стала нядаўна студэнтка Менскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту А. Кар-ч, якая купіла каля абменнага пункту 10 амэрыканскіх даляраў у грамадзяніна А. Васілеўскага. За «незаконную валютную апэрацыю» студэнтку затрымала міліцыя. Матар'ялы перадалі ў суд Кастрычніцкага раёну г. Менска, дзе судзьдзя М. Рыштоўская вынесла студэнтцы пакараньне: «аштрафаваць на 1.200.000 рублёў з канфіскацыяй 10 даляраў».

Іван СІДАР

## Начальства даядае апошніх дзяржаўных кабаноў

**У вёсцы Літвінавічы Калінкавіцкага раёну знаходзіцца сьвінафэрма саўгаса «Азарычы», дзе корміцца мясцовае начальства.**

Карэспандэнт «Свабоды» высьветліў, што рэгулярна, прыкладна два разы на месяц, сюды наведваюцца чыноўнікі з Калінкавіцкага райвыканкаму, каб папоўніць свае маразільнікі мясам. Дырэктар саўгасу Уладзімер Гук дае каманду — і да прыезду начальства завальваюць вепрука (вагою 150-200 кг).

«Яны даядаюць ужо апошніх вепрукоў, — незадаволена кажа адна работніца фэрмы. — Раней у нас гадавалася каля трох тысячаў сьвіней, а цяпер і аднае тысячы няма. Мы ратуем гэтых парсюкоў, каб не падохлі, а выходзіць, што толькі дзеля начальства і стараемся!»

А як вы хацелі: адной жа сьвіньнёю ўсіх не накорміш, добра, што хоць начальства не галадуе...

Андрэй ПАЎЛАЎ

## Прычына эпідэміі — сапсаванае малако

**У Горадні працягваецца эпідэмія вострых кішэчных хваробаў.**

За 20 дзён па дапамогу зьвярнулася 917 асобаў. Зь іх у 537-мі пацьвердзіўся такі дыягназ. Толькі за 15 жніўня ў шпіталях гораду папрасілі мэдычнае дапамогі ажно 129 чалавек. Сярод усіх хворых каля 80 працэнтаў складаюць дзеці, а большасьць зь іх — дашкольнікі.

Санэпідэмічная служба правяла праверку гандлю. Усяго за два выходныя дні ў 29-ці крамах было складзена 65 пратаколаў за парушэньне умоваў захаваньня і продажу малочных прадуктаў. Дырэктары гэтых крамаў аштрафаваныя на суму ад 500 да 800 тысяч рублёў. Невядома толькі, ці атрымаецца спагнаць штрафы.

С.А.

## Былыя камсамольскія важакі любяць «Зуброўку»

**Былы член бюро гарадзенскага абкаму камсамолу Анатоль Кратэнка днямі быў засьпеты „на гарачым".**

Папярэдне дамовіўшыся з майстрам вінкамбінату, ён вынесіў адтуль 4 літры 350 грамаў «Зуброўкі» агульным коштам 200880 рублёў. Аднак памылкова было б падумаць, што колішні камсамольскі важак, пазбыўшыся ідэалягічнае пасады, мае цяпер жабрацкае жыцьцё і яму не хапае на выпіўку. Зусім не. Спадар Кратэнка някепска ўладкаваўся і кіруе сёньня турыстычнай фірмай. Мабыць, ён па-простy вельмі любіць з камсамольскіх часоў «Зуброўку», якую сёньня ў крамах свабодна ня купіш.

М.В.

## Згарэла «Дзюймовачка»

**У ноч зь нядзелі на панядзелак у Менску па вуліцы Прытыцкага быў падпалены камэрцыйны кіёск.**

Зрэшты, гэта ня рэдкасьць, кіёскі гараць у сталіцы кожны тыдзень. Гэты выпадак адметны тым, што полымя перакінулася на дзіцячую краму «Дзюймовачка», якая ў выніку пажару моцна пацярпела.

М. Г.

## За дзесяць курэй — тры гады

**Расейскі грамадзянін нехта А. Кашавы быў асуджаны Зэльвенскім раённым судом на тры гады і два месяцы пазбаўленьня волі.**

Ён пакараны за тое, што залез у прыватны куратнік і скраў 10 курэй. А. Кашавому ўжо даводзілася сядзець у турме, аднак за такое «сьмешнае» злачынства яго асудзілі ўпершыню, чым пакараны вельмі незадаволены.

В.ЯНЧУК



## У Нямеччыне судзяць судзьдзю

**На мінулым тыдні ў Нямеччыне быў арыштаваны былы старшыня Найвышэйшага суда ГДР Хайнрых Цёпліц. Яго абвінавачваюць у вынясеньні заведама неправасудных прыгавораў.**

У ФРГ мяркуюць, што заняць сваё месца на лаве падсудных і панесьці заслужанае пакараньне павінны ня толькі тыя, хто загадваў страляць па безьзбройных людзях, што спрабавалі да лістапада 1989 г. уцекчы на Захад праз Бэрлінскі мур. Паўстаць перад судом павінны таксама і пракуроры, і судзьдзі, якія груба парушалі правы чалавека ў ГДР. Таму ў апошнія месяцы ўжо асудзілі некалькі юрыстаў, абвінавачаных ў незаконным пазбаўленьні волі. Гэта яны ў пачатку 50-х г.г. на так званых «вальдхаймскіх працэсах» практыкавалі паскораныя судовыя расправы і выносілі падсудным неадпаведныя закону прыгаворы.

Непрывабную ролю ў перасьледзе іншадумцаў адыгрываў найвышэйшы суд ва Усходнім Бэрліне. Яго задачай было фармальнае юрыдычнае прыкрыцьцё тых рашэньняў, што даўно ўжо былі прынятыя высокапастаўленымі функцыянерамі кампартыі або міністэрствам дзяржбясьпекі ГДР. Цёпліцам усе яны былі вельмі задаволеныя, бо на паказальных палітычных працэсах ён заўсёды выносіў «правільныя» і суровыя прысуд. У знак сваёй удзячнасьці яны абдорвалі свайго «абаронцу» шматлікімі ўзнагародамі і ганаровымі званьнямі.

Аднак цяпер Хайнрыху Цёпліцу, які выйшаў на пэнсію яшчэ ў 1972 г., прыйдзецца адказваць за злачынствы гэдээраўскіх часоў. Нямецкая Фэміда не заплюшчвае вачэй на даўнія падзеі.

В.Ш.



### Праграма 8-га каналу

**Аўторак, 23 жніўня**

18.00 «Карусэль».
18.25 Студыя «Інтэкс»: «Навіны».
18.35 «Вальтрон».
19.00 Тэлесэрыял «Лябірынт правасудзьдзя»: «Небясьпечныя суперніцы».
19.50 Мультфільм.
20.25 «Марэна Кляра».
21.15 БАНТ. Рэпартаж.
21.40 Маст. фільм.

**Серада, 24 жніўня**

18.00 «Карусэль».
18.25 «Вальтрон».
18.50 Паліцэйскі сэрыял «Хіл Стрыт Блюз»: «Тараканішча».
19.35 Мультфільм.
19.50 Майстэрства у-шу.
20.25 «Марэна Кляра».
21.20 Гарадзкі гадзіньнік.
21.40 Маст. фільм.

**Чацьвер, 25 жніўня**

18.00 «Карусэль».
18.25 «Вальтрон».
18.50 Тэлесэрыял «Лябірынт правасудзьдзя». «Забойства».
19.40 Мультфільм.
20.20 Майстэрства у-шу.
21.00 БАНТ. Рэпартаж.
21.05 Давайце патаньчым!
21.35 Маст. фільм.

**Пятніца, 26 жніўня**

18.00 «Карусэль».
18.25 «Вальтрон».
19.40 Мультфільм.
19.50 Сямейны сэрыял «Швайцарскія Рабінзоны».
20.50 Foxy music.
21.40 Маст. фільм.

**Субота, 27 жніўня**

15.00 Маст. фільм «Герой разьюшаны».
16.30 Казаньнік Кенэт Копленд.
17.00 «Трансформэры».
17.15 Пригодніцкі сэрыял «Затока Небясьпечная». «Сольны палёт».
18.10 «Нашэсьце Напалеона на Маскву» з цыклю «Гістарычныя бітвы».
19.00 Тэлесэрыял «Кветка жарсьці».
20.30 Музычная праграма.
21.35 Маст. фільм.

**Нядзеля, 28 жніўня**

15.00 Трансформэры.
16.10 Маст. фільм «На гранатавых выспах».
17.45 Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
18.15 «Кветка жарсьці».
20.40 Спорт-сакрэт.
21.05 Кіно Нямеччыны. «У год чарапахі».
22.40 Foxy music.

### Праграма каналу НТВ

**Аўторак, 23 жніўня**

17.00 Дзецям. Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці Вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 62-і.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Ровары. Чэмпіянат сьвету.
19.20 Сьвет кіно. Фільм «Памечаны для забойства».
21.35 Гадзіна сэрыялу. «Інспэктар крымінальнае паліцыі». 10-я сэрыя.
22.30 Часінка.
22.55 «Матадор» Канстанціна Эрнста.

**Серада, 24 жніўня**

17.00 і 18.35 Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці Вы хацелі пра гэта даведацца ». Фільм 63-і.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.55 Сьвет кіно. Малькольм Макдаўэл у фільме «Вецер з усходу».
21.35 Гадзіна сэрыялу. «Інспэктар крымінальнае паліцыі». 11-я сэрыя.
22.35 Часінка.
22.55 Кавярня «Абломаў».

**Чацьвер, 25 жніўня**

17.00 Дзецям. Мультфільмы.
17.30 «Энцыклапедыя цудаў, ці Вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 64-ы.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Ровары. Чэмпіянат сьвету.
19.20 Сьвет кіно. Керк Дуглас у фільме «Эймас».
21.35 Гадзіна сэрыялу. «Інспэктар крымінальнае паліцыі». 12-я сэрыя.
22.30 Часінка.
23.00 Кіно не для ўсіх. «Арбітар».

**Пятніца, 26 жніўня**

17.00 Дзецям. Мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці Вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 65-ы.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Футбольны клюб.
19.25 Кіно 80-х. «Самая абаяльная і прывабная».
21.35 Гадзіна сэрыялу. «Судзьдзя». 1-я серыя.
22.30 Часінка.
23.00 Сьвет кіно. «Сьмяротны ўкус».

**Субота, 27 жніўня**

17.00 Дзецям. Мультфільм.
17.10 Трэцяе вока.
18.00 «Сёньня».
18.35 «Ключ ад форда Баярд». 28-ы вып.
19.55. Дзецям і дарослым. «Паліцыянт Кэтс і ягоны сабака». 41-я і 42-я сэры.
21.00 «Надоечы».
21.45 Аўтаспорт: найвышэйшыя дасягненьні.
22.00 Наша новае кіно. «Гангофэр».
22.35 Музычны кірмаш.

**Нядзеля, 28 жніўня**

17.00 Кінатэатар юнага гледача. «Першакласьніца».
18.30 Тэлечасопіс «Умельства жыць».
19.00 Дзецям і дарослым. «Паліцыянт Кэтс і ягоны сабака». 43-я і 44-я серы.
20.00 Вынікі.
21.10 Сьвет кіно. «Янкі».
23.30 Ровары. Чэмпіянат сьвету.
0.15 НТВ прадстаўляе: анонс тыдня.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 22.08.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1218 © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая
Наклад 45 000
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12